www.nv-online.info

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 33 (4182)

28 красавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не ў аўторак, а ў сераду

**выйдзе на наступным тыдні чарговы нумар “Народнай Волі”.**
**Звязана гэта з першамайскімі святамі і зменамі ў графіку работы партнёрскіх структур.**
**У любым выпадку Вы, шаноўныя чытачы, на будучым тыдні атрымаеце два планавыя нумары “Народнай Волі”.**
**З Днём салідарнасці, шаноўныя!**

ПОЛИТКУХНЯ

Анна КАНОПАЦКАЯ:

## «Внесли ли наши предложения, не внесли – вопрос для меня открытый…»



Лидер Объединенной гражданской партии **Анатолий Лебедько** заявил, что демсилы страны будут *пытаться внести подготовленный ими проект изменений в Избирательный кодекс в повестку дня сессии Палаты представителей. «Задача-максимум – использовать мандат депутата Палаты представителей, члена ОГП Анны Канопацкой», – заявил Лебедько.*

*Как это можно осуществить на практике, поинтересовались мы у Анны Канопацкой.*

*– Процедура на самом деле непростая, – пояснила депутат. – Даже не знаю, каким образом пробить эту стену, но, несомненно, буду пытаться.*

*Сначала наши предложения я должна внести в профильную комиссию, они должны их рассмотреть, согласовать с заинтересованными министерствами, ведомствами, в том числе и с Администрацией президента…*

*Есть более простой способ: президент своим указом вносит изменения в избирательное законодательство, и тогда не надо проходить все эти круги. Сейчас как раз идет работа в таком направлении. При Центризбиркоме, как известно, работала межведомственная комиссия, которая разрабатывала поправки в избирательное законодательство. И мы свои предложения направили в комиссию. Но конечный вариант, переданный этой группой, который, не исключаю, уже лег на стол главе государства, я не видела. Внесли туда наши предложения, не внесли – вопрос для меня открытый…*

*Как известно,* экспертной группой, в которую вошли представители буквально всех оппозиционных партий и демократических движений, разработан ряд предложений по изменению избирательного законодательства. Главные из них – это переход на смешанную, пропорционально-мажоритарную избирательную систему, сокращение до двух дней досрочного голосования, обязательное включение в состав избирательных комиссий представителя каждого кандидата. По мнению экспертов, также необходимо законодательно закрепить норму, гарантирующую открытый и гласный подсчет голосов, чтобы каждый член комиссии и наблюдатель мог видеть содержание каждого бюллетеня.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Ермошина в отпуске, дата совещания неизвестна

Совещание у главы государства по вопросам избирательного законодательства планировалось в марте. Однако до сих пор оно так и не состоялось.

В Центризбиркоме говорят, что точная дата совещания еще не определена. Лидия Ермошина в отпуске до 6 мая, а без руководителя ЦИК вряд ли такое мероприятие состоится. Учла ли межведомственная группа поправки, предлагаемые демсилами, тоже остается вопросом.

Что же касается поправок, которые изначально предлагала межведомственная комиссия, то не так давно в интервью «Народной Воле» Лидия Ермошина обозначила их так: «*Это открытое, гласное, конкурентное формирование избирательных комиссий, это подсчет голосов в пределах видимости, это информирование населения*». По поводу принципиальной нормы – включения в избирательные комиссии представителей каждого кандидата – глава ЦИК заявила тогда: «*По участковым комиссиям вряд ли будем предлагать изменения. Боюсь, что к этому мы еще не готовы*».

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ФАКТ

## Заробкі выраслі на 25 долараў

У сакавіку сярэдні налічаны заробак у Беларусі склаў 770,6 рубля (каля 410 долараў ЗША), паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. У параўнанні з лютым зафіксаваны рост на 54,1 рубля – больш як на 25 долараў. Калі зарплаты будуць павялічвацца такімі тэмпамі, праз 3,5 месяца дасягнём жаданых 500 долараў.

ПРЫЗНАННЕ

## Пад псеўданімам «Артур»

У “Фэйсбуку” на старонцы зарэгістраванага ў Чэхіі “Маладога фронту” з’явілася заява **Сяргея Пальчэўскага,** у якой той паведамляе, што вымушаны быў падпісаць паперу аб супрацоўніцтве з КДБ пад псеўданімам «Артур”, зрабіў гэта пад уздзеяннем націску і шантажу і каецца ў гэтым учынку перад Богам і людзьмі.

*«Яны адразу пачалі патрабаваць, каб я распавядаў ім нешта пра “справу патрыётаў”. Я адмовіўся,* – расказаў С.Пальчэўскі пра часы, праведзеныя ў СІЗА КДБ. – *Тады мяне пачалі шантажыраваць. Мне была выказана пагроза крымінальнага пераследу і дадатковага тэрміну за ДТЗ з маім удзелам. Справа ў тым, што сёлета ў лютым я, знаходзячыся за стырном, збіў на пешаходным пераходзе жанчыну. Дзякуй Богу, ДТЗ абышлося без пераломаў, але пашкоджанні здароўю кваліфікаваны як менш цяжкія, і за гэта пры жаданні пацярпелай можа быць заведзена крымінальная справа».*



Паводле слоў Сяргея Пальчэўскага, таксама была агучана пагроза публікацыі нейкіх інтымных падрабязнасцяў ягонага асабістага жыцця.

*“Пад псеўданімам “Артур” я падпісаў паперу аб супрацоўніцтве з КДБ, разважаючы, што па вызваленні прызнаюся ў гэтым маім сябрам. І сёння я каюся ў гэтым учынку перад Богам і людзьмі. Калі нехта мяне асуджае за ўчыненае, я лічу, што кожны мае на тое поўнае права».*

Зараз тэлефон Пальчэўскага недаступны. *«Ён цяпер не на сувязі і на сувязі пакуль не будзе. Ён нікуды не паехаў, але пакуль будзе ўстрымлівацца ад каментарыяў»,* – сказала жонка лідара “Маладога фронту” Зміцера Дашкевіча Настасся.

Начальнік прэс-службы КДБ Дзмітрый Пабяржын адмовіўся каментаваць БелаПАН заяву Пальчэўскага.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Ты проснешься на рассвете…

Предложение главы государства о том, чтобы учебный день школьников начинался не с 8, а с 9 часов утра, честно говоря, меня – как бывшего школьного учителя – вогнало в состояние ступора. Никогда не думал, что президент будет вдаваться в подобные мелочи. Хотя это вовсе не мелочи. Скорее даже – наоборот.

Утром ребенок просыпается ни свет ни заря. Умывается, чистит зубы, завтракает. И идет в школу.

Идет – если школа рядом и если сам ребенок уже ходит в «среднее звено». А как быть с учащимися начальной школы? Правильно – их водят туда родители.

Но родители ведь в большинстве случаев далеко не только родителями работают. Они еще несколько социальных функций выполняют. Кто-то – на заводе или фабрике. Кто-то – на почте или в парикмахерской. У учителей и работников системы здравоохранения день тоже начинается далеко не с половины десятого утра. В этом достаточно убедиться, взглянув на графики работы учреждений, предприятий, фирм. И получается, что воспользоваться в полной мере без ущерба для работы идеей под названием «Даешь ребенку сладкий сон!» могут разве что те, кто в состоянии нанять домработницу либо охранника, у кого ненормированный рабочий день, вольные художники да еще те, кого сама власть отнесла к категории тунеядцев. Опрометчиво, прямо скажем, отнесла. С последствиями для собственной репутации.

Соответственно, реализация этого проекта повлечет за собой необходимость решения и других вопросов. Например, вопроса о длительности рабочего дня в средней школе и внешкольных воспитательных учреждениях. Они что (в смысле – власть наша) – собираются сократить все это ровно на час? Просто – рубануть? Скорее всего, нет. А это означает, что график просто сдвигается. На час вниз. Представьте себе ту педагогическую армию, которая будет возвращаться домой – в собственные семьи – еще на час позже. А учителя – не министры, их проконтролировать гораздо проще.

Я не против того, что сына президента возят на учебу в служебном автомобиле охранники. Скажу более того: я за то, чтобы безопасность членов семьи главы белорусского государства была гарантирована. В конце концов, сегодня у нас один президент, а завтра – надеюсь – и другой подоспеет. И семья президента – можно сказать, государственный институт, обеспечение функционирования которого тоже должно как-то регламентироваться. Но это ведь не повод, как писал классик, чтобы стулья ломать и график работы средней школы менять – от этого и казне убыток, и людям дополнительное беспокойство.

Власть привыкла переносить на все общество и государство собственные проблемы. Но при этом она не учитывает, что проблемы у нее и пенсионеров, шахтеров, вахтеров, учителей, врачей и даже чиновников низового уровня – принципиально разные. Это Мария-Антуанетта говорила с искренним недоумением: «Если у них нет хлеба, почему они не едят пирожные?» Закончилось это, как известно, для королевы Франции настолько плохо, насколько в принципе было возможно – гильотиной, на которой ей отрубили прелестную, но легкомысленную голову. Когда глава государства начинает импровизировать на тему начала рабочего дня школьника – это, конечно, его право, но обычный человек (тот, кого почему-то называют «простым») подумает: а что – других забот нет? И хотя другие заботы есть, и их много, и от них поседеешь поневоле, появятся мешки под глазами и даже не хочется с прежней прыткостью играть в хоккей, но запомнится все равно какая-нибудь глупость. В случае с Марией-Антуанеттой – рекомендации по рациону для парижской бедноты. В случае с Александром Лукашенко – косвенная подсказка министру образования дать ребенку (и его собственному, и чужим детям) возможность поспать лишний час.

Намерения, конечно, были вполне благими. Но мы знаем, куда именно ведет путь, вымощенный такими намерениями. Не обязательно к светлому будущему.

З НАГОДЫ

## Як скараціць экспарт у Расію ў пяць разоў?

*Група палітолагаў, эканамістаў, навукоўцаў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання на чале з Зянонам Пазьняком распрацавала праграму развіцця краіны пад назвай* ***«Вольная Беларусь».***
*Ёсць у ёй такі пункт:*
*“Для Беларусі будзе істотным змяніць штучна створаны непрапарцыянальны гандлёвы баланс з Расіяй. У канчатковым выглядзе ён не павінен перавышаць 7–9 працэнтаў усіх гандлёвых і фінансавых дачыненняў”.*
*Заўважым, сёння Расія – асноўны гандлёвы партнёр Беларусі, на яе долю прыпадае каля 40 працэнтаў нашага экспарту.*
***Дык ці рэальна скараціць экспарт у Расію прыкладна ў пяць разоў? З такім пытаннем “Народная Воля” звярнулася да аднаго з распрацоўшчыкаў праграмы – экс-дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Юраса БЕЛЕНЬКАГА.***

– Расія сёння як струхнелае дрэва, – *сказаў ён.* – Калі з яго дом будаваць – будзе бяда. Прывязка да расійскай эканомікі – гэта катастрофа. Паглядзіце: якая рэнтабельнасць многіх нашых прадпрыемстваў? Мінусовая. Мы дацыруем са сваёй кішэні амаль ўсю “малочку” і фактычна ніжэй сабекошту прадаём яе ў Расію. І гэта пры тым, што малако – рэнтабельная прадукцыя, ліквідны тавар на сусветным рынку. Рабы мы па вялікім рахунку! І некаторыя расійскія журналісты яшчэ крычаць, што Расія нас корміць. Які падман! Якая фальсіфікацыя! Гэта ж трэба такую інфармацыйную аферу зрабіць, каб беларусаў дурыць! На сустрэчы з расійскімі журналістамі Лукашэнка прызнаўся, што ў Расію ў наменклатуры было пастаўлена больш прадукцыі, а выручку атрымалі меншую.

**– Але ж куды прадаваць? Як мы зможам адвязацца ад расійскага рынку?**

– Спачатку трэба правесці рэструктурызацыю эканомікі. І вось тут заканамерна ўзнікае пытанне: па якім шляху пайсці – рэанімíраваць старыя ці ствараць новыя, высокатэхналагічныя прадпрыемствы? У 1990-я гады амерыканцы, еўрапейцы хацелі будаваць у нас новыя эфектыўныя заводы. Але прыйшоў да ўлады Лукашэнка і не даў гэта зрабіць. І цяпер 23 гады звяртаецца да народа, каб паясы зацягвалі, маўляў, лёгка не будзе. Але ж так і задушыцца можна.

Многія нашы прадпрыемствы – гэта гніллё. Помню словы прадстаўніка МВФ у Беларусі Мідэлкопа: трэба прыгнаць вялікі бульдозер і зруйнаваць вашы заводы. Сёння некаторыя аўтарытэтныя эканамісты кажуць, што пабудаваць у Беларусі новыя прадпрыемствы ў два разы танней, чым рэструктурызаваць старыя. Страшна робіцца, калі толькі ўявіць, якія там камунікацыі на нашых састарэлых заводах! А калі будуць сучасныя высокатэхналагічныя заводы, то і прадукцыя канкурэнтная з’явіцца. Тым больш што, дзякуй Богу, улады яшчэ не дабілі цалкам нашу адукацыю і ўзровень рабочай сілы. Нашкодзілі, але не крытычна.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Бліц-каментарый «Народнай Волі»

Ці можна задаволіцца адказам спадара Беленькага? Вядома ж, не. Агульныя словы, бяздоказныя разважанні – не грунтоўны адказ на канкрэтнае пытанне: як скараціць экспарт у Расію да 7–9 працэнтаў ад агульнага?

Каб куплялі нашу прадукцыю ў іншых краінах свету, пры гэтым па рэнтабельных цэнах, трэба ствараць новыя высокатэхналагічныя прадпрыемствы. Факт бясспрэчны. Але якім чынам пабудаваць новыя эфектыўныя заводы? Дзе ўзяць грошы? І колькі часу спатрэбіцца на іх узвядзенне? Шкада, але не ў праграме “Вольная Беларусь”, не ў разважаннях Ю.Беленькага адказаў на гэтыя вострыя пытанні няма.

Зойдзем з іншага боку. Пусціць бульдозеры і зруйнаваць заводы і фабрыкі, якія сёння не могуць канкурыраваць на сусветным рынку? А што з дзясяткамі, сотнямі тысяч чалавек, якія сёння на іх працуюць, выдаюць нейкую (хоць і не самай высокай якасці) прадукцыю і маюць адпаведныя заробкі? Праблема з праблем! Зноў жа: дзе адказ, як яна, гэтая праблема, павінна вырашацца?

І яшчэ. Скарачаючы экспарт у Расію, Беларусь павінна знайсці рынкі збыту сваёй прадукцыі ў іншых рэгіёнах свету. Можам мы ткнуцца са сваім малаком у Еўропу? Як кажуць, рэбус ды яшчэ які! Разлік на Азію, Афрыку? Марыць нікому не забаронена…

Рубіць з пляча – вялікага розуму не патрабуецца. Але ж ці можа гэта выратаваць Беларусь? Кожная лічба, выведзеная распрацоўшчыкамі вышэйназванай праграмы, павінна быць падмацавана канкрэтнымі, навукова выверанымі разлікамі. Таму, мяркуем, яна заслугоўвае шырокага грамадскага абмеркавання. І “Народная Воля” гатова прадаставіць для гэтага свае старонкі.

ЧУЛІ?

## Знайшлі...

Паводле папярэдніх дадзеных, геалагічныя запасы новага радовішча нафты складуць ад 350 тысяч да 800 тысяч тон.

Радовішча знаходзіцца ў межах прамежкавага блока рэгіянальнага Речыцка-Вішанскага разлому Прыпяцкага прагіну і атрымала назву Вугольскае.

ПАД ГРАДУСАМ

## Нічога добрага Рабаў не абяцае…

Як паведаміў учора ў Facebook начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Дзмітрый Рабаў**, у Беларусь прыйшлі дажджы, *“добра ліць будзе яшчэ некалькі дзён”*.

Сіноптык распавёў, што **28 красавіка** днём у многіх раёнах пройдуць моцныя дажджы, у асобных раёнах на поўдні чакаюцца навальніцы. Тэмпература днём +5…+11°С; па паўднёвым усходзе +12…+17°С, у Гомельскай вобласці +18…+23°С.

У суботу **29 красавіка** на большай частцы тэрыторыі краіны таксама пройдуць дажджы. Ноччу і раніцай па паўночна-заходняй палове краіны – працяглыя моцныя дажджы. У асобных раёнах – навальніцы. Тэмпература ноччу +5…+11°С, днём +10…+17°С; па ўсходзе ноччу +12…+14°С, днём +18…+23°С.

І толькі **ў нядзелю** атмасферны фронт будзе марудна сыходзіць на ўсход, і надвор’е пачне паляпшацца: інтэнсіўнасць дажджоў зменшыцца, яны будуць невялікімі і кароткачасовымі. Тэмпература ноччу +3…+10°С, днём +10…+17°С; па ўсходзе ноччу +11…+12°С, днём +18…+22°С.

